Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная ГАЗЕТА

№ 15 (51) 12 - 18 красавіка 1996 года Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

Праваслаўнаму люду зычыць вясёлага свята і пагодных дзён ваша заўжды Рэгіянальная ГАЗЕТА!

**Рэгіянальная ГАЗЕТА**

Падпіска з любога месяца ў любым паштовым аддзяленні Беларусі. Індэкс 63212, кошт на месяц— 4 тыс. руб.

## Небяспечная сітуацыя

# Чаму спыніўся цягнік?

***Небяспечная сітуацыя склалася на 641 кіламетры чыгуначнага пуці Маладзечна- Вілейка з-за адсутнасці ў гэтым месцы прыпыначнага пункта.***

–Справа ў тым,– сведчаць работнікі Маладзечанскага аддзялення міліцыі на транспарце,- што поездам "Маладзечна-Крулеўшчына" кожную раніцу спяшаюцца на заняткі навучэнцы Вілейскага ПТВ-124, -48і 200.

Калі за вокнамі цягніка імкліва праносяцца вучылішчы, да заняткаў застаецца ўсяго некалькі хвілін. А да станцыі Вілейка, адкуль да пачатку заняткаў ужо ніяк не паспець, далекавата. Каб не спазніцца і пазбегнуць канфліктаў з выкладчыкамі, трапіўшыя ў такую сітуацыю падлеткі ідуць на правапарушэнні, не знаходзячы іншага выйсця, як спыняць поезд з дапамогай стоп-крана ў недазволеным месцы з рызыкай для свайго жыцця.

Штодзень у гэтым небяспечным здарэнні ўдзельнічаюць больш 300 навучэнцаў, таму работнікі ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце спрабавалі вырашыць канфлікт, накіроўваючы свае патрабаванні ў Вілейскі гарвыканком, а таксама начальніку Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі В. Гапееву. Небяспечнае становішча на 641 кіламетры чыгункі хвалюе бацькоў, выкладчыкаў і работнікаў транспарту.

*Наталля РАБЧАНКА.*

**Ад рэдакцыі.** Старажылы сведчаць, што яшчэ пасля вайны на тым месцы, дзе сёння скачуць з цягнікоў ледзь не на хаду юнакі і дзяўчаты (і не толькі!), быў прыпынак. Рэдакцыя накіроўвае газету з гэтым матэрыялам ва ўпраўленне Беларускай чыгункі.

## Паводка

# Валожынцы лічаць, што пранясе

Сёлетняя паводка пакуль урону не прынесла. Ёсць адзіночныя выпадкі: склеп затапіла, у хату не зайсці– вады мора. А так усё больш-менш. Надвор'е спрыяе: ноччу– мінус, днём– плюс. Ды і сітуацыя поўнасцю кантралюецца. Але небяспека можа ўзнікнуць. У раёне адзінаццаць вадасховішчаў, з якіх у рэкі перыядычна спускаецца вада. Магчыма ад гэтага Заходняя Бярэзіна, Іслач, Гальшанка ўзняліся на восемдзесят сантыметраў. Час пакажа, як будзе далей. У вёсцы снег толькі пачынае таяць. Могуць быць крыху падтопленымі тры вёскі (да дваццаці двароў у кожнай). Але эвакуацыя не плануецца. З вяскоўцамі сустрэлася ўлада і растлумачыла, што і як рабіць цяпер і ў крытычнай сітуацыі.

У раёне наладжана кругласутачнае дзяжурства. На вадасховішчах увесь час замяраюць узровень вады. І калі што– дастаткова назапасілі пяску і жвіру.

# Ці выратуюць браты Кісліцкія бацькоўскую хату?

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Восемдзесят тон вады адпампавалі ноччу Анатоль Кісліцкі, яго сын і трактарысты калгаса імя Дзяржынскага.***

Падвор'е знаходзіцца побач з мехстанам, збожжаскладам і крыху ніжэй за калгасную маёмасць. Вадасцёкавыя трубы ад гэтых пабудоў за зіму памерзлі, забіліся. Вада, якая павінна была пайсці на поле, скіравалася на вёску. Вільготны снег споўз на сядзібу пенсіянера. Вада ўзнялася на двары вышэй за халявы гумовых ботаў, затапіла склеп, у якім знаходзілася каля двух тон бульбы, хату. Нягледзячы на позні час, Анатоль Пятровіч пабег да старшыні калгаса. Той адразу даў трактар з ёмістасцю дзесяць тон, людзей. З дзевяці вечара да дзвюх гадзін ночы "брыгада" адпампоўвала ваду і вывозіла яе на поле. Калі рыхтавалася інфармацыя, у калгасе чакалі пажарную машыну, каб тая гарачай вадою пад ціскам прамыла вадасцёкавую трубу. А Анатоль Кісліцкі чакаў прыезду другога сына, каб той падзяжурыў на падвор'і.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Навіны рэгіёна

# Свята двайнят

***ВІЛЕЙКА. Свята двайнят і блізнят арганізавала раённае аддзяленне Дзіцячага фонду. Кожны з запрошаных дзяцей атрымаў памятныя падарункі ад арганізатараў своеасаблівага фестывалю, а таксама ад гасцей з нямецкага Оберхаўзена– сяброў Дзіцячага фонду. А потым усе сталі гледачамі шоў-конкурсна-забаўляльнай праграмы, у якой бралі ўдзел чатыры пары найбольш смелых двайнят.***

Косця і Дзіма Даманскія, Таня і Люда Харлінскія, Надзя і Жэня Аблачынскія, Оля і Алег Мамаі паказалі на сцэне ўменне сябраваць, разам выконваць хатнія справы і разам з тым быць самастойнымі, незалежнымі адзін ад аднаго, мець свае схільнасці і захапленні. У адпаведнасці з гэтым яны прадстаўлялі сваю сям'ю ў невялічкіх візітоўках, спаборнічалі ў эрудыцыі, у знаходлівасці і ўменні.

Журы прысудзіла перамогу Косцю і Дзіму Даманскім, братам-блізнятам з Вілейскай гімназіі. Але задаволенымі засталіся ўсе ўдзельнікі– яны атрымалі хоць і не дарагія, але вельмі цікавыя прызы і салодкія пачастункі.

Гледачы дружна падтрымлівалі "сваіх" двайнят апладысментамі і крыкамі, залу радаваў сваім выкананнем дзіцячы вакальна-інструментальны ансамбль "Экспромт".

*Аддзел інфармацыі.*

# На радасць гурманам

***ВАЛОЖЫН. Нядаўна пакінуты магазінам "Оптыка" дом стаў уласнасцю калгаса імя К. Маркса, які адкрыў там свой фірменны гандаль.***

Прылаўкі спраўна запаўняюцца прадукцыяй каўбаснага і лівернага цэхаў гаспадаркі, мяснымі паўфабрыкатамі. Цэнавы дыяпазон даволі шырокі– ад 14-тысячнай ліверкі да сапраўдных далікатэсаў, коштам у мінімальную зарплату. Зрабіўшы папярэдні заказ, можна ўразіць гасцей і смажаным парсючком у натуральную велічыню.

Уся прадукцыя хутка знаходзіць свайго пакупніка і прыносіць калгасу добры прыбытак. Сама назва новага магазіна– "Пяршаі-3" сведчыць пра размах гандлёвай дзейнасці гаспадаркі. Папярэднікі гэтага магазіна з адпаведнай нумарацыяй некалькі гадоў радуюць прадукцыяй, выраблена на абсталяванні і па рэцэптуры знакамітай нямецкай фірмы, гурманаў вёскі Пяршаі, Мінска.

*Таццяна ШАБЛЫКА.*

# Дзмітрый Шупляк рызыкаваў жыццём

***Саракачатырохгадовы інвалід з Вілейшчыны сваім жыццём распарадзіўся па-свойму. Ён прынёс у пакой бытавы газавы балон, і, адкруціўшы вентыль, паднёс запалку.***

Згарэць яму не ўдалося, але і выратавацца таксама– атруціўся чаднымі газамі.

Рызыкуючы жыццём, сяржант унутранай службы Дзмітрый Шупляк вынес з палаючага памяшкання тры балоны з газам. Адзін з іх пастаянна падтрымліваў гарэнне, тым самым ствараючы небяспеку ўзрыву. Камандзір аддзялення Сяргей Капцюг і пажарны Аляксей Мушніцкі вынеслі цела самападпальшчыка, праўда, ужо без прыкмет жыцця.

Дзякуючы аператыўным дзеянням намесніка начальніка пажарнай часці капітана Пятра Багданава агонь не пашкодзіў суседнія будынкі.

*Алена АЛЬФЕР.*

# Што такое БКТ?

***МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. З канца мінулага года ў Беразінскім дзейнічае свая студыя кабельнага тэлебачання. Раней яны былі толькі ў Маладзечне і Радашковічах.***

Праўда, гэта не Беразінскія кабельныя сеткі, тут іх называюць студыяй "Наш час" (ад назвы саюза моладзі, што створаны ў пасёлку). Два штатныя супрацоўнікі: Ала Ермаковіч - аўтар праграм і вядучая, Віктар Бублевіч - апаратар і мантажор. Тэлевізійшчыкі маюць статус філіяла МКТ, дзе звычайна і адбываецца мантаж будучых перадач. Але ў планах атрыманне ўласнай ліцэнзіі на права тэлевяшчання.

Пачаліся перадачы перад Новым, 1996 годам. 30 снежня выйшла перадача "Падзея-95" (фільм на паўтары гадзіны), на наступны дзень беразінцаў парадавалі віншавальнай праграмай, якую перад дванаццаццю ночы глядзелі, бадай, усе.

Неўзабаве з'явіліся прамыя эфіры - гутаркі з урачамі, рэпартажы з мясцовага торфабрыкетнага завода (з сюжэтнымі ўключэннямі). А маючыя адбыцца ў чэрвені матчы міні-футбольнага турніру студыя плануе паказваць у запісе поўнасцю.

*Аддзел інфармацыі.*

# Скаўты садзяць лес на Мядзельшчыне

***МЯДЗЕЛ. 25-28 красавіка Буйкаўская харугва скаўтаў "Зялёная Дуброва" (вёска Буйкі) праводзіць ЭКАзлёт Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў "Лесу з дапамогай".***

Усе жадаючыя пасадзіць лес, могуць прыехаць 25 красавіка ў Сырмежскую сярэднюю школу, што ў Буйках. У праграме злёту апроч пасадкі лесу конкурс скаўцкіх плакатаў на экалагічную тэматыку, гутаркі спецыялістаў, гульні-спаборніцтвы, дыскатэка, канцэрт, "Вярста здароўя", кухарства.

У злёце мае намер прыняць удзел моладзь з Мінска, Маладзечна, Вілейкі, Мядзела, Мядзельскага раёна. Вас зацікавіла інфармацыя? Аб сваіх прапановах вы можаце паведаміць на адрас: 222389, Мядзельскі р-н, в. Буйкі, харугва "Зялёная Дуброва", Бярнарду Пакульніцкаму, або па тэл. (01797) 52838. Ад'езд з Маладзечна з прывакзальнай плошчы чыгуначнага вакзала 25. 04. 96 у 15.00 спецыяльным аўтобусам.

*Аддзел інфармацыі.*

# "Шатлы" ўзнімаюцца дзякуючы нашаму земляку



*Гэты чалавек прымаў непасрэдны ўдзел у распрацоўцы важнейшых амерыканскіх аэракасмічных праграм. "Apollo" і "Shuttle" сёння падымаюцца да касмічных вышынь дзякуючы ракетнаму паліву, што распрацоўвалася Барысам Кітом, акадэмікам Міжнароднай акадэміі Астранаўтыкі.*

Навучэнцы ведаюць яго і як педагога, як доктара філасофіі ў галіне матэматыкі і гісторыі навукі. Шлях да сусветнага прызнання Барыса Уладзіміравіча ішоў праз Маладзечна. Тут ён у гады нямецкай акупацыі арганізаваў спачатку настаўніцкую семінарыю, а пасля яе разгону фашыстамі і турэмнага зняволення ў Глыбокім і Вілейцы арганізаваў гандлёвую школу, затым– адміністрацыйна-гандлёвы інстытут.

Яго былыя вучні і сёння з цеплынёй згадваюць свайго настаўніка, выкладчыка, дырэктара. Адзін з іх– член Саюза мастакоў Беларусі Кастусь Харашэвіч арганізаваў нядаўна вечарыну, прысвечаную Кіту. Нататкі Канстанціна Іванавіча мы і размяшчаем.

*Рэдакцыя.*

*МАЛАДЗЕЧНА. 4 красавіка ў Цэнтральнай бібліятэцы імя М. Багдановіча адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 86-годдзю нашага славутага суайчынніка акадэміка Міжнароднай Акадэміі Астранаўтыкі і вядомага грамадска-асветніцкага дзеяча Барыса Уладзіміравіча Кіта.*

Яго жыццё цесна зітавана з гістарычнымі падзеямі XX стагоддзя, жыццём беларускага народа, пакручыстымі шляхамі беларускага інтэлігента. Апынуўшыся не па сваёй волі ў эміграцыі ў ЗША, ён змог выйсці на сусветную арэну, захаваўшы вернасць беларусчыне, нацыянальнаму духу, адданасць сваёй бацькаўшчыне.

Барыс Кіт з тых людзей, што ствараюць гонар любой нацыі ў любой краіне,– заначыла на ўрачыстай вечарыне член Саюза пісьменнікаў Беларусі, дацэнт беларускага універсітэта культуры Лідзія Савік, аўтар кнігі "Вяртанне" першай на Беларусі пра жыццё і дзейнасць вучонага. Паведаміла пісьменніца і пра тое, што неўзабаве выйдзе з друку другая, больш грунтоўная кніга, пра Барыса Кіта. Даведаліся прысутныя на вечарыне і аб тым, як многа зрабіў гэты чалавек, яшчэ да Айчыннай вайны на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі ў сусветнай справе і пашырэнні школьніцтва. Маючы ўжо ўніверсальную адукацыю ў перыяд з 1941 па 1944 ён жыў і працаваў у нашым горадзе, арганізаваў, а затым стаў дырэктарам і выкладчыкам фізікі і матэматыкі ў Маладзечанскай сярэдняй гандлёва-адміністрацыйнай школе, якую наведвалі многія тагачасныя юнакі і дзяўчаты як з горада, так і навакольных вёсак і мястэчак. Некаторыя з былых яго вучняў падзяліліся на вечарыне сваімі ўспамінамі аб ім і аб вучобе ў той школе.

У гэты дзень у кінатэатры "Радзіма" была паказана дакументальная кінастужка пад назвай "Душа не падарожніца", створаная студыяй "Летапіс", Рыгорам Ясінскм і Львом Слобіным. Прысутных узрушылі кінакадры, на якіх з невялікага пакойчыка ў Франкфурце-на-Майне, дзе зараз жыве вучоны, да нас звяртаецца мудры чалавек з запаветамі любіць і шанаваць сваю Радзіму, родную мову, сваю нацыянальную культуру і навуку, фарміраваць свае светапогляды на агульначалавечых, гуманістычных каштоўнасцях.

Пасля паказалі падарожжа чалавека па паверхні Месяца, здзейсненае ў выніку паспяховай рэалізацыі амерыканскай праграмы "Apollo", у стварэнні якой прымаў удзел і сам Барыс Уладзіміравіч Кіт.

*Кастусь ХАРАШЭВІЧ, мастак, вучань Барыса Кіта ў Маладзечне.*

# Шлях да жыцця праз творчасць і дабрыню

***СМАРГОНЬ.** У мясцовым таварыстве інвалідаў 628 чалавек. Рознага ўзросту, сацыяльнага становішча. І сярод іх такія, як Аляксандр Іваноў, прафесійны мастак, былы заснавальнік мясцовага тэатра "Лицедеи", былы спартсмен. Пяць гадоў таму на занятках ушу яму не пашчасціла, зламаў сабе шыю. Але хапіла мужнасці застацца ў цэнтры творчага і грамадскага жыцця.*

Аляксандр піша карціны, трымаючы пэндзаль у роце. У асноўным спецыялізуецца на пейзажах. Мастак з поспехам праводзіць выставы сваіх твораў, і ўпэўнены, што інвалідам неабходная творчая рэабілітацыя. Разам з Ірынай Кажаноўскай, чалавекам з чулым сэрцам, яны стварылі творчы клуб: рыхтуюць для фізічна хворых людзей культурную праграму. Аляксандр сам выдатна спявае, піша музыку.

Стала традыцыяй усе культурныя мерапрыемствы адкрываць клубнай песняй "Аб сябрах", музыку і словы да якой напісаў прафесійны музыкант Цімур Пагасян. Ужо будучы інвалідам, ён разам з сястрой і пляменніцай прыехаў у Смаргонь з Сумгаіта. Цімуру 32 гады, жыве ў пакойчыку інтэрната. Сястра з дачкой здымаюць кватэру.

Вікенцій Шыдук, былы шафёр, змагаецца за здароўе. У кватэры– трэнажоры. Кожны дзень фізічныя практыкаванні– маленькімі крокамі ідзе да мэты.

Хто ні патэлефануе Марыі Траццяк, у адказ заўсёды чуе: "У мяне ўсё добра". Мала таго, яна імкнецца падтрымаць кожнага– і хворага, і здаровага. Марыя Сямёнаўна– душа пад'езда. Суседзі ахвотна ёй дапамагаюць, нават і канкурэнцыя сярод іх ёсць. Кожны хоча і дапамагчы, і паразмаўляць з чалавекам цікавым, адукаваным. Раз-пораз мясцовая газета друкуе яе вершы.

Невядома, як склаўся б лёс кожнага, каб мужным людзям не дапамаглі родныя, блізкія, таксама людзі мужныя, самаадданыя. У размове Людміла Шасцеракова, старшыня раённага праўлення таварыства інвалідаў, прызналася, што ісці да хворых было цяжка.

-Дапамагаем часцей словам,– гаворыць Людміла Міхайлаўна,– інвалід дзяцінства атрымлівае пенсію 240 тысяч у месяц. Той, хто яго даглядае, таксама не працуе. Ведаеце, такія ёсць чулыя людзі, сэрцы якіх клічуць дапамагаць. Гэта нашы грамадскія работнікі Любоў Башлыкова, Любоў і Уладзімір Худаковы, Валянціна Лебедзева, Святлана Скрыпнічэнка... Таварыства іваліддаў– грамадская арганізацыя. Мы не карыстаемся бюджэтнымі сродкамі. Самі шукаем грошы. Навагоднімі падарункамі нас забяспечылі камбікормавы завод, тры камерцыйныя структуры. Але ўсё ж мы не патрабуем грошай, мы шукаем шляхі да сэрцаў. Хочам, каб дапамога была хай не вялікая ў матэрыяльным сэнсе, а шчырая, ад усёй душы. Такая, якую мы атрымліваем ад Леаніда Качуры, начальніка пазаведамаснай аховы, былога "афганца", мясцовага ксяндза. Мы чакаем ад людзей чалавечага– дабраты і чуласці.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Першы нацыянальны абяцае быць традыцыйным

***У апошнія дні сакавіка прыхільнікі гумару і фальклору сабраліся ва Уздзе, на радзіме Кандрата Крапівы. Тут прайшоў першы нацыянальны фестываль байкі, прысвечаны 100-годдзю пачынальніка гэтага жанру ў сучаснай беларускай літаратуры. Да ўдзелу ў ім былі запрошаны самадзейныя калектывы Міншчыны. Паведамляюць карэспандэнты "РГ".***

## Нашы не падвялі

У святочным шэсці па вуліцах гарадскога пасёлка прайшлі героі літаратурных твораў Крапівы. Гледачы без цяжкасці пазнавалі іх.

На фестывалі дэманстраваліся керамічныя вырабы, малюнкі, разьба, вырабы з саломкі паводле вядомых баек. Упершыню была прадстаўлена цеставая скульптура. На сцэнічных пляцоўках гледачы маглі бачыць тэатралізаваныя паказы баек, карчма "У Лявона" запрашала ўсіх на гульнёва-забаўляльныя праграмы. Напрыканцы свята прайшоў гала-канцэрт, а ўзнагароджванне пераможцаў ператварылася ў цікавае тэатралізаванае прадстаўленне.

Годна выступілі на фестывалі самадзейныя артысты з нашага рэгіёна.

Майстрыха з Вілейкі Кацярына Малыхіна стала лаўрэатам фестывалю ў намінацыі "цеставая скульптура". Дыпломамі адзначаны калектыў "Спадчына" з Маладзечна, байкапісец з Валожына Антон Гедроіць, гульнёва-забаўляльная кампазіцыя Івянецкага сельскага дома культуры, сюжэтная кампазіцыя з Вілейкі. Найбольш лаўрэатаў і дыпламантаў сярод землякоў байкапісца– уздзенцаў.

*Наталля ВАЛЫНЕЦ, член журы фестывалю.*

## Не толькі ўбачыць,

але і ... з'есці персанажаў баек маглі ўдзельнікі і гледачы фестывалю.

У час конкурсу пякарскай скульптуры гледачы былі не ў сілах адысціся ад апетытных, выпечаных з цеста дзеда і бабы на вазку, жабы ў каляіне, свінні пад дубам. А больш за ўсё спадабалася фіга на талерцы. Экспанаты прадаваліся, можна было ацаніць не толькі іх знешні выгляд, але і смак.

Прайшло адкрыццё мемарыяльнай дошкі на радзіме Крапівы– у вёсцы Нізок, а таксама музея "Слова" у мясцовай школе.

Прадстаўнікі пятнаццаці раёнаў прынялі ўдзел у свяце.

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

# "Група скіду"

***МАЛАДЗЕЧНА.** Гэтая незвычайная для рэспублікі група ў дзіцячым садку №21 створана ў маі мінулага года. Сюды ўрачы дзіцячай паліклінікі накіроўваюць дашкалят, якія пры жывых бацьках робяцца бездаглядны мі. 15 дзяцей знайшлі тут сабе часовы прытулак.*

У чысціні, утульнасці, пяшчотнасці сёння іх пяцёра. Маша, Сяржа і Арцём Данцовы. Некалі яны жылі ва ўласным доме. Бацькі мелі работу, машыну. Потым для дзяцей усё знікла. Брудных і галодных, іх прывялі ў групу "Прытулак"– "групу скіду непатрэбных дзяцей". Як і Вольгу Жаўняровіч, і прыгожую 3-гадовую Шурачку. У іх ёсць і бацькі, і цёткі, і бабулі з дзядулямі. Толькі сваякам засціла вочы абыякавасць. Напэўна, яны абгарнуліся больш значнымі для сябе асабістымі праблемамі.

А вось дзеці пра іх памятаюць. Не спрабуйце ў іх прысутнасці дрэнна казаць пра маці, якая ці наркаманка, ці алкагалічка. Будуць абараняць да бойкі створаны ў дзіцячым уяўленні вобраз. Для іх усё адно маці ці бацька– адзіныя і лепшыя ў свеце. Гэта святасць. Пасля якой самае галоўнае– добра паесці. Усё да крошкі. Каштоўнасць, якую вызначылі для сябе галодныя людзі інстыктыўна.

Хаджу па амаль стэрыльных пакоях "Прытулка" сярод спешчаных пацалункамі выхацелек малых, а ў галаве набатам адбіваюцца і выклікаюць мурашкі па целе словы загадчыцы садка Вольгі Блашынскай: "Я добра ведаю псіхалогію і дзяцей кінутых, іх бацькоў. Чарнобыльская катастрофа пазбавіла таксама і мяне дома, работы. У мяне былі міліцэйскія пагоны, цікавая работа выхавацеля ў выпраўленча-працоўнай калоніі".

Жудасна. Рэчаіснасць падштурхоўвае на падобных прыкладах зрабіць сімвалічнае параўнанне. Амаль большая частка нашага грамадства апынулася сёння ў стане дзяцей "групы скіду". Мы па-ранейшаму любім сваю дзяржаву, не жадаем асэнсоўваць, што "непатрэбнымі дзецьмі" сталі для яе ў кучы эканамічных і палітычных праблем, якія засцілі вочы нашым "бацькам". І сёння, каб выжыць, вызначаем свае патрэбнасці не розумам, а інстынктыўна.

У лютым трапіла ў дзіцячую бальніцу 26-гадовая Анжэла з разадраным у бойцы тварам і 3-месячным хворым немаўлём. Трапіла, як кажа, з падвала, які абрала сярод маладзечанскіх шматпавярховак таму, што найбольш цёплы і сухі.

Маці Анжэлы родам з Маладзечна. У пошуку прыгод дзе толькі ні жыла, пакуль не знайшла прытулак на далёкім Усходзе з сямігадовай дачкой і чарговым мужам. Аднойчы пайшла з дому і знікла. Анжэла выхоўвалася ў дзіцячым доме. Некалькі год таму прыехала ў Маладзечна да бабулі, каб пазнаёміцца са сваякамі. Засталася. Працавала. Мела пакой у інтэрнаце, пакуль не сустрэла каханага. Ён звёў яе да сваіх бацькоў жыць. Амаль перад родамі сужыцеля пазбавілі волі за крадзеж. А маладая жанчына з немаўлём апынулася на вуліцы, нікому не патрэбная, амаль без сродкаў да існавання. Няўжыўчывы характар дзетдомаўкі вызначае яе сярод людзей звычайнага выхавання ў сям'і, як таго стэпавага ваўка. Аднак, да яе гонару, жанчына трымаецца за сваё дзіця, ахоўвае яго з падобнай толькі дзікаму зверу нястрымнай заўзятасцю. Прайшоўшы школу на выжыванне ў адзіноце, яна мае сёння дзіця– шлях да звычайнага асабістага шчасця.

Вось што кажа цудоўная інтэлігентная жанчына, урач дзіцячай паліклінікі. Яна амаль штодзённа бачыць дзяцей-сірат пры жывых бацьках. Не ў прытулку, а ў шматлікіх сем'ях, так званых нядобранадзейных. "Работа... Аддаеш ёй усю моц сваю. Дамоў прыходзіш знясілены фізічна і эмацыянальна. Атрымліваецца, прыносіш сям'ю ў ахвяру рабоце. Між тым, у складаны час, як сёння, ні выніка добрага, ні задавальнення работа не дае. Дык што больш каштоўнае? Адзінае, што засталося ў нас,– сям'я, дзеці. Мне балюча, што ім, самым родным і дарагім, дастаецца мала цяпла і ўвагі, якую можа даць жанчына". І сапраўды тач, дзяцей, сябе, сям'ю - гэта яшчэ можна кожнаму з нас абараніць ад маральнага заняпаду.

*Святлана САРОКА.*

# Праграма тэлебачання

## Понедельник, 15 апреля

### Белорусское телевидение

8.00 «Во имя воскресения». Д/ф. 8.10 «Поет Андрей Миронов». 9.05 Мультф.фильм. 9.15 «Мама». Х/ф. 10.40 Сущность. Праздничная программа. 11.10 Гости в дом. 11.40 Гомельский облдрамтеатр. 12.40 Студия «Окно». «Элегия». 13.15 «Артистка из Грибова». Х/ф. 15.30 «Спасовская ярмарка». 16.10 «Анима Мунди». Д/ф . 16.40 Приглашаем на вечерки. 17.10 «Это мы не проходили...» Экономическая программа. 17.25 Хоккей. Чемпионат мира. Сборная Беларуси - сборная Польши. 20.00 Крок. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.45 Спортивный телекурьер. 22.05 «Не горюй!» Х/ф. 23.35 Гала-концерт «Белая Русь».

### ОРТ

8.00, 11.00, 14.00,17.00, 22.20 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 «Поле чудес». 10.05 Человек и закон. 10.30 «Угадай мелодию». 14.20 «Джимми Суперчервяк». Мультф. 14.40 Марафон-15. 15.00 Звездный час. 15.35 «Элен и ребята». 16.05 Джэм. 16.30 «Семь дней спорта». 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». 19.05 «Мы». 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.40 Фантастический «Виртуальная реальность». 21.35 «Серебряный шар». Т.Лаврова. 22.30 Фильмы «Африканская охота», «Физиология русской жизни».

### Канал «Россия»

6.30 «Медвежьи истории». 7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.00 Вести. 7.20 «В этот день...» 7.30 Время деловых людей. 8.00 Мультф.фильм. 8.20 Своя игра. 8.50 Крестьянский вопрос. 9.05 «Санта-Барбара». Х/ф. 10.20 «Вечно живые». Телеспектакль. 12.35 Мультф.фильм. 14.45 Колесо истории. 15.45 Там-там новости. 16.20 Россия в лицах. 16.35 Спасение 911. 17.30 Клип-антракт. 17.40 L-клуб. 18.25 Лидер-прогноз. 19.00, 22.00, 23.00 Вести. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 Домино Михаила Боярского. 21.05 «Смертельный сон». Х/ф 23.15 Милицейская хроника. 23.25 Лучшие игры НБА.

### Санкт-Петербург

11.55 Информ ТВ «Сейчас». 12.05 «Первая любовь». 13.05 Скорая помощь. 13.35 Советы садоводам. 13.45, 20.35 Телеслужба безопасности. 14.05 «Кристи». 15.05 Овертайм. 15.20, 20.05 «Из Ленинграда в Петербург в общем вагоне». Фильм 1-й. 15.50 Стиль жизни. 16.05 «Пес Потсуорт и его друзья». Мультф. 17.05 Только без паники. 17.30 «Кирилл Смирнов - человек и его дела». 18.05 «Европейский союз» представляет. 18.35 Большой фестиваль. 19.05 «Первая любовь». 20.45 «Что наша жизнь?» 21.05 «Кристи». 22.05 «На ночь глядя». Вечерняя программа для взрослых. 22.20 «Смерть в кино». Х/ф.

### НТВ

17.00 Мультф.«Семейка Флинстоун». 17.30 Футбольный клуб. 18.00, 21.00, 23.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Регулярные матчи НХЛ. «Детройт» — «Чикаго». 21.35 «Иисус из Назарета». 6-я серия 22.30 Времечко. 23.20 Теннис в полночь.

## Вторник, 16 апреля

### Белорусское телевидение

17.05 «На добрый лад». Передача из Витебска. 17.20 Уроки Н.Новожиловой. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 «Дом над Енисеем». Д/ф. 18.15 «Будьте здоровы». 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости 19.05 «Возвращение в Эдем». 20.05 Интервью председателя Гомельского облисполкома П.В.Шипука. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Футбол. Чемпионат Англии. «Эвертон» - «Ливерпуль». 23.50 Мультф. для взрослых. 24.00 Новости. 0.15 Л.Куравлев и С.Фарада в худ. фильме «Русское чудо».

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00,17.00, 22.05 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 «Мы». 9.50 Смехопанорама. 10.15 «Телефон». Мультф. 10.30 «Угадай мелодию». 11.10 «Мир». 11.50 «Михайло Ломоносов». Фильм 3-й. 1-я серия. 14.20 «Джимми Суперчервяк». 14.40 Кварьете «Веселая квампания». 14.50 Мультф. 15.10 Волшебный мир, или Синема. 15.35 «Элен и ребята». 16.05 ...До шестнадцати и старше. 16.30 «Семь дней спорта». 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». 19.05 «Так что же такое Рязанов Эльдар?» 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.40 Все фильмы Рязанова. "Карнавальная ночь". 22.15 Юрий Шевчук и «ДДТ».

### Канал «Россия»

17.15 Тележурнал «Здоровье». 17.25 Ретро-шлягер. 17.55 Проще простого. 18.25 Чрезвычайный канал. 19.00, 22.00, 23.50 Вести. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 Городок. 21.00 Погода. 21.05 Фильм А.Вайды «Человек из мрамора». 0.05 Экран криминальных сообщений.

### Санкт-Петербург

17.05 Только без паники. 17.30, 18.00 Показывает областная телекомпания. 17.55, 18.55, 19.55, 20.55, 21.55 Информ ТВ «Сейчас». 18.35 Большой фестиваль. 19.05 «Первая любовь». 20.05 «Из Ленинграда в Петербург в общем вагоне». Д/ф. 20.35 Телеслужба безопасности. 20.45 «Что наша жизнь?» 21.05 «Кристи». 22.05 «На ночь глядя». Программа для взрослых. 22.20 «Прозрение». Х/ф (Грузия).

### НТВ

17.00 Мультф.«Семейка Флинстоун». 17.30 «Состоятельная женщина». 7-я серия 18.00, 21.00, 23.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Х/ф. «Автоколонна». 21.35 «Иисус из Назарета». 7-я серия 22.30 Времечко. 23.20 В поисках приключений. 23.50 Меломания: «Джимми Хендрикс».

## Среда, 17 апреля

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. Недвижимость. 8.00 Новости. 8.15 Авто-парк. 8.30 Бездельник. 9.00 ТВ- школе. История. 7-й класс. 9.30 «Возвращение в Эдем». 11.20 «Это мы не проходили...» Экономическая программа. 11.35 «Зорная ростань». 12.20 Видимо-невидимо. 13.20 «Капля воды». Д/ф. 13.40 «Коррупция». Х/ф. 15.00 Новости. 15.15 «Черный квадрат». Д/ф. 16.10 Все про все. 16.35 Сельчане. 17.05 «Супермаркет». Д/ф. 17.30 Кредо. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 «Без меня...» Д/ф. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости 19.05 «Возвращение в Эдем». 20.00 «Кто это?» Телеигра. 20.10 Супергол. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 «Закон Бурка». Многосерийный Х/ф . 1-я серия. 23.05 Королевская охота. 23.45 «Художник из Кунгура». Д/ф. 24.00 Новости.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00,17.00, 23.20 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 «Тема». 9.50 «В мире животных». 10.30 «Угадай мелодию». 11.10 «Мир». 14.20 «Джимми Суперчервяк». 14.40 Кактус и К. 14.50 До-ми-соль. 15.10 Зов джунглей. 15.35 «Элен и ребята». 16.05 «Тет-а-тет». 16.30 «Семь дней спорта». 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». 19.05 «Тема». 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.40 «КВН-ассорти». 21.20 Футбол. Лига чемпионов. Полуфинал. «Панатинаикос» (Греция) — «Аякс» (Голландия). 23.30 Футбол. Лига чемпионов. «Нант» (Франция) — «Ювентус» (Италия).

### Канал «Россия»

6.30 «Медвежьи истории». Мультф. 7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.05 Вести. 7.20 «В этот день...» 7.30 Время деловых людей. 8.00 Клип-антракт. 8.20 Проще простого. 8.50 Крестьянский вопрос. 9.05 «Санта-Барбара». 10.20 «Россия молодая». Х/ф. 7-я серия. 11.30 Наш сад. 12.00 Чрезвычайный канал. 12.30 Ретро-шлягер. 14.50 Империя игр. «Девушки на воде». 15.45 Там-там новости. 16.20 Россия в лицах. 16.45 «Бременские музыканты». Мультф. 17.15 Вас приглашает «Реформа». 17.25 Карьера. 17.55 Своя игра. 18.25 До Москвы - далеко. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 Сам себе режиссер. 21.00 Погода. 21.05 Футбол. Кубок России. 1/4 финала. «Ротор»(Волгоград) - ЦСКА. 23.20 Милицейская хроника. 23.30 Горячая десятка.

### Санкт-Петербург

11.55 Информ ТВ «Сейчас». 12.05 «Первая любовь». 13.05 Скорая помощь. 13.35 Советы садоводам. 13.45, 20.35 Телеслужба безопасности. 14.05 «Кристи». 15.10 Мультф. 15.20, 20.05 «Из Ленинграда в Петербург в общем вагоне». Фильм 3-й. Часть 1-я. 15.50 Стиль жизни. 16.05 «Пес Потсуорт и его друзья». Мультф. 17.05 Только без паники. 17.30, 18.00 Показывает областная телекомпания. 18.35 Большой фестиваль. 19.05 «Первая любовь». 20.45 «Что наша жизнь?» 19.45 Телеслужба безопасности. 21.05 «Кристи». 22.05 «На ночь глядя». Программа для взрослых. 22.20 «Постскриптум». Х/ф.

### НТВ

17.00 Мультф. «Семейка Флинстоун». 17.30 «Состоятельная женщина». 8-я серия 18.00, 21.00, 23.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Мир кино. Чак Норрис и Дэвид Кэррадин в фильме «Одинокий волк Маккуэйд» . 20.45 Доктор Угол. 21.35 «Иисус из Назарета». 8-я серия, заключительная. 22.30 Времечко. 23.20 Такова спортивная жизнь. 23.50 Кафе Обломов.

## Четверг, 18 апреля

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 «Анатолий Соловьяненко на сцене и вне сцены». Фильм-концерт. 9.05 «Возвращение в Эдем». 10.00 Королевская охота. 10.40 Мультф. 11.00 Четвертое измерение. 11.40 «От начала до конца». Д/ф. 12.30 «Курьер». Х/ф. 15.00 Новости. 15.15 Мультф.фильм. 15.25 «Экомир» представляет: «Метрополис». Д/ф 16.15 ТВ - школе. География Беларуси. 9-й класс. 16.45 Педагогический экран. 17.05 Уроки Н.Новожиловой. 17.35 «Крок». 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 «Три истории с телефоном». Х/ф. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости 19.05 «Возвращение в Эдем». 20.05 «Контрасты». Правовая программа. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 «Закон Бурка». Х/ф . 2-я серия. 23.05 «Крок». 23.35 Поет Юрий Антонов. 24.00 Новости.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00,17.00, 23.00 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 Футбол. Лига чемпионов. Полуфинал. «Панатинаикос» (Греция) — «Аякс» (Голландия), «Нант» (Франция) — «Ювентус» (Италия). 11.10 «Мир». 14.20 Премьера мультсериала «Волшебные истории». 14.40 Лего-го! 15.05 Тин-Тоник. 15.35 «Элен и ребята». 16.00 Рок-урок. 16.30 «Семь дней спорта». 17.20 «Секрет тропиканки». 18.10 Час пик. 18.35 Лотто-Миллион. 19.00 «Один на один». 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.40 Х/ф. «34-й скорый». 22.10 «Обоз». 23.20 «Анюта». Фильм-балет.

### Канал «Россия»

6.30 «Медвежьи истории». Мультф. 7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00, 22.45 Вести. 7.20 «В этот день...» 7.30 Время деловых людей. 8.00 Твои возможности, человек. 8.30 Клип-антракт. 8.35 Сам себе режиссер. 9.05 «Санта-Барбара». 10.20 «Россия молодая». Х/ф. 8-я серия. 11.35 До Москвы - далеко... 12.05 Горячая десятка. 15.00 Волшебный чемодан. 15.15 Кенгуру. 15.45 Там-там новости. 16.20 Россия в лицах. 16.45 «Бременские музыканты». Мультф. 17.15 Золотая визитка. «Рукопожатие с «Хэндмастером». 17.25 Фильм-концерт. 17.55 Проще простого. 18.25 Клуб губернаторов. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 Маски-шоу. 21.05 Погода. 21.10 Х/ф. «Мачеха». 23.00 Экран криминальных сообщений. 23.10 Адамово яблоко. 23.55 В мире авто- и мотоспорта.



### Санкт-Петербург

11.55 Информ ТВ «Сейчас». 12.05 «Первая любовь». 13.05 Скорая помощь. 13.35 Советы садоводам. 13.45, 20.35 Телеслужба безопасности. 14.05 «Кристи». Х/ф. 15.10 «Петербург - красота невозвратная». Видеофильм. 15.20, 20.05 «Из Ленинграда в Петербург в общем вагоне». Док. фильм 3-й. Часть 2-я. 15.50 Стиль жизни. 16.05 «Пес Потсуорт и его друзья». Мультф. 17.05 Только без паники. 17.30, 18.00 Показывает областная телекомпания. 18.35 Большой фестиваль. 19.05 «Первая любовь». 20.45 «Что наша жизнь?» 21.05 «Кристи». Х/ф . 22.05 «На ночь глядя». 22.20 «Предательство голубки». Х/ф .

### НТВ

17.00 Мультф. «Семейка Флинстоун». 17.30 «Состоятельная женщина». 9-я серия 18.00, 21.00, 23.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Х/ф. «Лучшие из лучших-2» . 20.45 Доктор Угол. 21.35 «Адвокат Маротто: криминальные истории». 1-я серия. 22.30 Времечко. 23.20 Х/ф «Место на серой треуголке».

## Пятница, 19 апреля

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 «Встречи на арене». Фильм-концерт. 9.00 ТВ - школе. География Беларуси. 9-й класс. Новые формы хозяйства. 9.30 «Возвращение в Эдем». 10.25 Мультф. 11.00 «Ревизор». Х/ф. 13.05 "Чернобыль... Последнее предупреждение" Д/ф . 15.00 Новости. 15.15 «Колесо судьбы». Д/ф. 15.25 Хоккей. Чемпионат мира. Сборная Беларуси - сборная Японии. Прямая трансляция. 18.00 Студия «Колыбельная». 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости 19.05 «Возвращение в Эдем». 20.05 «Международный курьер». 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 «Закон Бурка». Х/ф. 3-я серия. 23.05 Хоккей. Чемпионат мира. Сборная Беларуси - сборная Японии. 3-й период. 23.45 «12, или На ночь глядя». 0.05 Новости. 0.20 «Армия любовников» в Минске.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00, 11.00, 14.00,17.00, 22.30 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.10 «Один на один». 9.55 «Играй, гармонь любимая!». 10.25 «Пока все дома». 11.10 В эфире телерадиокомпания «Мир». 14.20 «Волшебные истории». Мультф. 14.40 «Веселый трамвай». Телеспектакль для детей. 15.05 Фильм-сказка «Сказка о царе Салтане». 16.30 «Семь дней спорта». 17.20 «Секрет тропиканки». 18.20 Человек и закон. 18.45 «Поле чудес». 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.40 Программа передач. 20.45 «Детективное агентство «Лунный свет». 21.45 Взгляд. 22.40 Боевик Квентина Тарантино «Настоящая любовь».

### Канал «Россия»

6.30 «Медвежьи истории». Мультф. 7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.00 Вести. 7.20 «В этот день...» 7.30 Время деловых людей. 8.00 Мультф.фильмы. 8.35 Проще простого. 9.05 «Санта-Барбара». 10.20 Торговый дом. «Ле Монти». 10.35 В.Высоцкий в фильме «Интервенция». 12.20 Мультф. 12.30 Книжная лавка. 15.00 Месяцеслов. 15.15 Волшебный чемодан. 15.25 Чья сторона? 15.45 Там-там новости. 16.20 Россия в лицах. 16.50 «Зорро». Х/ф. 17.45 Мультф. 17.55 «Удалось!» Видеофильм. 18.25 Вертикаль. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 Джентльмен-шоу. 21.00 Погода. 21.05 Х/ф. «Хорошая мать». 23.15 Тихий дом.

### Санкт-Петербург

11.55 Информ ТВ «Сейчас». 12.05 «Первая любовь». 13.05 Скорая помощь. 13.35 Советы садоводам. 13.45, 20.35 Телеслужба безопасности. 14.05 «Кристи». Х/ф . 15.10 Мультф.фильм. 15.20, 20.05 «Из Ленинграда в Петербург в общем вагоне». Фильм 4-й. 15.50 Стиль жизни. 16.05 «Пес Потсуорт и его друзья». Мультф. 17.05 Только без паники. 17.30, 18.00 Показывает областная телекомпания. 18.35 Большой фестиваль. 19.05 «Первая любовь». 20.45 «Что наша жизнь?» 21.05 «Кристи». Х/ф . 22.05 Вечерняя программа для взрослых. 22.20 «Отбывающие срок». Х/ф.

### НТВ

17.00 Мультф. «Семейка Флинстоун». 17.30 Футбольный клуб. 18.00, 21.00, 23.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Х/ф. «Охота на сутенера». 20.35 «ТЭФИ-96»: кто есть кто. 20.45 Глас народа. 21.35 «Адвокат Маротто: криминальные истории». 2-я сер. 22.30 Времечко. 23.20 Сильвия Кристель в фильме «Эммануэль». 0.55 Эротические шоу мира.

## Суббота, 20 апреля

### Белорусское телевидение

8.00 Новости. 8.15 «Созвучие». Передача из Гродно. 8.35 Здоровье. Тележурнал. 9.05 Уроки Н.Новожиловой. 9.35 «Все про все». 10.00 Телебом. 10.30 «Ералаш». Юмористический журнал. 10.50 MTV. 11.35 «Мир природы и увлечений». 12.25 Хоккей. Чемпионат мира. Сборная Беларуси - сборная Великобритании. 15.00 Коллаж. 15.30 «Олимпийский силуэт». Художественная гимнастика. 15.50 Многоголосие. 16.25 «Зорная ростань». Телеконкурс молодых артистов эстрады. 17.05 Силач. Спортивный телеклуб. Прямая линия. 18.05 Белорусский дом. 18.45 Художница Зоя Литвинова. 19.20 Х/ф. «Бабник». 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.45 «Найдешь друга - приобретешь сокровище». Х/ф. 23.35 Видимо-невидимо. 0.35 Темная комната.

### ОРТ

6.45 Телеканал «Подъем!». 7.45 Слово пастыря. 8.00, 14.00 Новости. 8.10 Телеканал «Подъем!». 9.00 Все звезды. 9.30 «Не зевай!». 10.00 Утренняя почта. 10.35 Смак. 10.55 «Эрмитаж». 11.25 Х/ф. "Девушка без адреса". 13.00 «Театр + TV». Алексей Рыбников. 13.40 Автомобиль и я. 14.20 В мире животных. 14.55 «Как-то раз». 15.05 «Окно в Европу». 15.35 Бомонд. 15.55 Футбол. Чемпионат России. «Спартак» (Москва) — «Лада» (Тольятти). 17.55 Мультф. 18.05 Х/ф. «Полосатый рейс». 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.45 «Детективное агентство «Лунный свет». 21.45 «Дни». 22.30 «Брэйн ринг». 23.15 Х/ф. «Короли мамбо».

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00, 23.55 Вести. 7.20 «В этот день...» 7.30 Всего понемногу. 8.20 «Вовкулакия, или Загадка доктора Никодима». 8.35 Золотой ключик. 8.50 Продленка. 9.15 Клип-антракт. 9.30 Устами младенца. 10.00 Вести в одиннадцать. 10.15 Доброе утро. «Завтрак для чемпионов». 10.45 Парламентская неделя. 11.25 «Вечные ценности». Гуманитарная телепрограмма. 12.20 «Волжский: заезд на выживание». 12.30 «Поэт в России - больше, чем поэт». 13.20 Де факто. 13.40 «Бланш». Телефильм. 14.30 Игра всерьез. 15.00 Пилигрим. 15.30 Кто мы? 16.15 «Каинов» дым». Д/ф. 17.10 Концертная программа. 18.05 «Графиня Эльвира». Фильм-спектакль. 19.25 Субботний вечер с Константином Райкиным. 20.55 Клип-антракт. 21.00 Погода. 21.05 Совершенно секретно. 22.05 «Пятый мушкетер». Приключенческий фильм. 0.10 Программа «А».

### Санкт-Петербург

8.25 Актуально-насущно. 8.55, 10.55, 12.55, 14.55, 16.55, 18.55, 20.55 Информ ТВ «Сейчас». 9.05 «Свидетели Иеговы» просим не беспокоить...» Передача 1-я. 9.35 Криминальная история из сериала «Уик-энд с детективом». 10.20 Мультф. 11.05 Стиль жизни 11.10 Ток-шоу «Наобум». Михаил Боярский и Лариса Луппиан. 11.40 По всей России. 11.55 Мы и банк. 12.40 Старое танго. 13.05 «Преступление и наказание». Х/ф. 1-я серия. 15.05 «Сокровища Петербурга». Русский музей. 15.20 Парадоксы истории. «Княгиня Дашкова вызывает на дуэль...» 15.50 Детское ТВ. Полосатая музыка. Семь пятниц на неделе. 16.15 Зебра. 17.05 Футбол. «Зенит» - «Балтика» (Калининград). 19.05 Х/ф. «VIP. Очень важная персона». 21.05 Блеф-клуб. 21.40 «Долгая страстная пятница». Х/ф

### НТВ

17.00 «Дог-шоу. Я и моя собака». 17.30 Вернисаж Ильи Резника. 18.00, 21.00 «Сегодня». 18.30 «Характеры». 19.10 «Полиция Майами, отдел нравов». 3-я серия . 20.00 Намедни. 20.45 Куклы. 21.35 Фантастический триллер «Невероятная обезьяна: эксперимент со страхом» . 23.35 Третий глаз. 0.20 Ночной канал. «Плейбой».

## Воскресенье, 21 апреля

### Белорусское телевидение

8.00 Киноочек. 8.10 Хоккей. Чемпионат мира. Сборная Беларуси — сборная Великобритании. 3-й период. 8.55 «Конан». Мультф. 9.20 Студия «Колыбельная». «Все дело в шляпе». 9.50 MTV. 10.20 Туробъектив. Путешествия, встречи, отдых. 10.40 Все нормально, мама! 11.10 Арсенал. Программа для армейцев. 11.40 Вершина мира. Телеигра. 12.00 Молодечненская сакавица-96. 12.45 Вас вызывает Спортландия. Международная товарищеская встреча школьников России и Беларуси. 14.00 Студия «Окно». «Жили-были...», «Классика дворов». 14.45 Авто-парк. 15.00 Луи де Фюнес в х/ф. «Жандарм из Сан-Тропеза». 16.30 Гости в дом. Египетские зарисовки. 16.40 «Дикий юг». Научно-популярный ф. 17.10 Вершина мира. Продолжение телеигры. 17.30 Бездельник. 18.00 Компьютерный полигон. 18.30 К 10-летию аварии на ЧАЭС. Д/ф. 19.40 Колыбельная. 20.00 Резонанс. 20.50 Новости-ТВ. 21.05 Ток-шоу «Карамболь». 21.40 «Открытые двери». Х/ф. 23.40 «Бархатный сезон».

### ОРТ

6.50 Тираж «Спортлото». 7.00 Телеканал «Подъем!». 8.00, 14.00 Новости. 8.10 Телеканал «Подъем!». 9.05 Непутевые заметки. 9.25 Пока все дома. 10.00 Утренняя звезда. 10.50 Из первых рук. 11.00 «Служу России!» Военный курьер. 11.30 «Играй, гармонь любимая!». 12.00 Провинциальные истории. 12.25 «Под знаком Пи». 12.55 Смехопанорама. 13.25 «Мера за меру». 14.20 «Портрет скрипача». Давид Ойстрах. 15.10 «Олень и волк». Мультф.фильм. 15.25 Хоккей. Чемпионат мира. Сборная Германии — сборная России. 18.15 «Счастливый случай». 18.59 «19.59». Информационно-аналитическая программа. 19.55 Пьер Ришар и Жерар Депардье в комедии "Беглецы". 21.40 Футбольное обозрение. 22.10 Хоккей. Чемпионат мира. Сборная Чехии — сборная Швеции. 2-й и 3-й периоды. 23.40 Любовь с первого взгляда.

### Канал «Россия»

7.00 «В это день...» 7.10 Всего понемногу. 8.00 Не вырубить... 8.15 Вас приглашает газета «Иностранец». 8.30 Гостиница деда Мазая. 8.45 Первый дубль. 9.00 Футбол без границ. 9.30 Аты-баты... 10.00 Вести в одиннадцать. 10.15 Русское лото. 10.55 В мире животных. 11.50 «Древо животворящее». Видеофильм. 12.15 Лицо с обложки. А.Пугачева. 12.30 21 кабинет. 13.00, 23.05 Вести. 13.20 «Бланш». Телефильм. 14.10 Караоке по-русски. 14.30 Мультф. 14.40 Империя игр. «Гладиаторы». 15.30 Петербургские сезоны. 16.00 Колесо истории. 17.00 «Чокнутый», «Аладдин». 17.55 «Вампука - принцесса африканская». Фильм-спектакль. 18.40 Репортер. 19.00 Зеркало. 19.45 Погода. 19.50 Х/ф. «Мимино». 21.30 Абзац. 22.20 У Ксюши. 22.50 Рек-тайм. 23.20 Анализы недели.

### Санкт-Петербург

7.55 Это ваш день. 8.20 Целительное слово. 8.55, 10.55, 12.55, 14.55, 16.55, 18.55, 20.55 Информ ТВ «Сейчас». 9.05 «Свидетели Иеговы» просим не беспокоить...» Передача 2-я. 9.35 Мультф. 9.50 «Весь этот цирк». Утреннее шоу. 10.10 Стиль жизни. 10.25 «За глаза». Музыкально-развлекательная программа. 11.05 Личное дело. 11.35 Еще одна Россия. 12.20 Овертайм. 12.35 Храм. 13.05 «Преступление и наказание». Х/ф. 2-я серия. 15.05 Музыка Фонтанного дома. 15.50 Детское ТВ. Золотой ключ. Бросайка. 17.05 Чемпионат Италии по футболу. В перерыве (17.55) - Спортивное обозрение. 19.10 Комедия «Девственность» (Италия). 20.35 Группа «Бед Бойз Блю». 21.05 Ничего, кроме... 21.20 Ноу смокинг. 22.10 Международное обозрение. 22.30 Концерт группы «Аквариум».

### НТВ

17.00 «Полицейский Кэттс и его собака». 17.30 Телеигра «Сто к одному». 18.00 «Сегодня». 18.30 Музыкальная программа «Овация». 19.00 «Полиция Майами, отдел нравов». 4-я серия . 20.00 Итоги. 21.10 Лайза Миннелли в фильме «Нью-Йорк, Нью-Йорк» .

